10 ЖНІЎНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№89 (620) КОШТ СВАБОДНЫ




ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

# Полное затмение

11 августа произойдет последнее в этом веке солнечное затмение. Белорусы «потеряют» Солнце лишь на некоторое время

**Татьяна НОВИКОВА**

В среду 11 августа 1999 года полное солнечное затмение можно будет увидеть в узком коридоре, который пройдет по Восточному полушарию Земли. С 1961 года это первое солнечное затмение в Центральной Европе. Жителям Минска доведется увидеть его только частично.

Последнее солнечное затмение XX века начнется почти в 300 км от Новой Шотландии, затем пройдет по Центральной Европе, Ближнему Востоку и Индии. Неполное солнечное затмение будет видно во всей Европе, Северной Америке и Азии. Лучше всего его можно будет наблюдать в Венгрии, Румынии и Болгарии. Маршрут лунной тени пересечет озеро Балатон, где находится известный венгерский курорт. Над ним в этот день будет ясная безоблачная погода, что позволит созерцать затмение в его полной красе.

Момент величайшего затмения произойдет в южно-центральной Румынии. В Бухаресте в 11.07 UT можно будет наблюдать самую впечатляющую картину затмения — оно продлится 2 минуты 22 секунды. Дальше лунная тень пробежит через Болгарию, Черное море, Турцию, Сирию, Иран, Ирак и покинет Землю в Индии.

В этот день лунная тень пройдет по Земле расстояние около 14.000 километров и покроет около 0,2% ее поверхности. Она будет двигаться по Земле со скоростью от 0,91 до 2 км/с. Общее время солнечного затмения составит 3 часа 7 минут. Ширина лунной тени будет изменяться от 110 до 85 км. ■

**По данным американского аэрокосмического агентства NASA**

# «Рокировочка»

**Николай ХАЛЕЗИН**

**Российскую политику понесло. Несмотря на период августовских отпусков, Борис Ельцин устроил очередную «рокировочку» во властных структурах. Сергей Степашин, неплохо зарекомендовавший себя на посту премьер-министра, отправлен в отставку. Он стал четвертым премьером, покинувшим этот пост за последние 18 месяцев.**

Российский президент представил для утверждения Думой в качестве премьер-министра кандидатуру директора ФСБ и председателя Совета безопасности Владимира Путина. В своем обращении к россиянам Борис Ельцин поблагодарил Степашина и выразил надежду, что Сергей Вадимович поможет своему преемнику войти в курс дел. Любопытно, что в этом обращении российский глава государства назвал Путина человеком, которого хотел бы видеть президентом России после того, как сам оставит этот пост.

Очевидно, что при помощи странных, на первый взгляд, ходов Борис Ельцин разыгрывает новую комбинацию. Сергей Степашин, лояльный к президентской семье и успешно справляющийся со своими обязанностями, полностью устраивал российского президента. Возможно, именно поэтому Ельцин и решил вывести его из-под удара накануне прогнозируемого обвала российского рубля. К тому же Ельцин прекрасно знает о том, что политик, попавший в опалу нынешней российской власти, моментально увеличивает свой рейтинг. Степашин, у которого есть все шансы подняться до второй-третьей рейтинговых строчек опросов, может пригодиться чубайсовскому «Правому делу» для прохождения осенью этого года в Думу.

Владимира Путина и Сергея Степашина роднит не только то, что они являются офицерами ФСБ и петербуржцами, но и то, что оба принадлежат к одному лагерю – лагерю Анатолия Чубайса. Судя по всему, именно ему принадлежит авторство проекта по смене премьера. А если это так, то нам волноваться не стоит – угрозы потери суверенитета Беларуси от Чубайса никогда не исходило. ■



ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

## Украінская грыўна падае

Апошнімі днямі грыўна пачала рэзка губляць «у весе» і нават выйшла за межы «валютнага калідора». На працягу некалькіх месяцаў Нацбанку ўдавалася стрымліваць курс на ўзроўні 3,8-4 грыўны за долар. Аднак пасля «бензінавага крызісу» грыўна пачала падаць. У выніку цяпер на ўкраінскіх біржах за 1 долар даюць 4,7 грыўны, а ў кіеўскіх «абменніках» курс складае 4,3-4,4 грыўны на долар.

## У новы год – з новай гарэлкай

З 1 студзеня 2000 года ў Беларусі будзе прадавацца белая гарэлка, выробленая толькі са спірточ сартоў «люкс» і «суперлюкс». Пра гэта паведаміў намеснік міністра эканомікі Анатоль Кавалёў. Спірт нават вышэйшай ступені ачысткі больш не будзе ўжывацца для вытворчасці гарэлкі. На думку намесніка міністра, такім чынам беларуская гарэлка стане не горшай за Smirnoff.

## У Паўночнай Карэі з'явілася ракета

Паўночная Карэя збіраецца правесці выпрабаванне балістычнай ракеты далёкага радыусу дзеяння. Пра гэта паведамілі амерыканскія ўлады. Па іх сведчанні, да стартавай пляцоўкі было дастаўлена ракетнае паліва, што мусіць пацвярджаць наяўнасць у КНДР зброі такога тыпу.

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

наша свабода

НАДВОР'Е




**10 жніўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, на значнай тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы, вецер паўднёвы 3–8 м/сек., пры навальніцах – да 14 м/сек. **11–12 жніўня** пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы, вецер паўднёва-ўсходні з пераходам на паўночна-заходні, 5–10 м/сек., пры навальніцах – 15–20 м/сек. Тэмпература ночу 12–17. Па **Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай** абласцях ночу 11 жніўня 15–20, 12-га – 11–16.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

# Міколу Статкевіча сустрэлі з шампанскім

## Кіраўніка БСДП адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе


Фота Ул.ШЛАПАКА

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Рыгор БУЯН**

**Пятнічным вечарам ля будынка спецпрыёмніка-размеркавальніка на вуліцы Акрэсціна ўтварылася нешта кшталту невялічкага пікніка. Амаль усё кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), а таксама падышоўшыя «на агеньчык» палітыкі і простыя людзі сустракалі з няволі лідэра БСДП(НГ) Міколу Статкевіча.**

Пасля таго, як Статкевіча выпусцілі з-за кратаў, было ўрачыста адкаркавана шампанскае, а першы тост сказаў сам старшыня сац-дэмаў: «За Беларусь!»

У гутарцы з журналістамі Мікола Статкевіч, супраць якога, нагадаем, узбуджаная крымінальная справа за правядзенне акцыі 27 ліпеня, заявіў, што, магчыма, не будзе ўдзельнічаць у працягу «бухарэсцкіх» перамоваў, таму што знаходзіцца ў падвешаным стане. «Толькі, калі ўлады спыняць справу супраць мяне, я перастану адчуваць сябе, як на ланцугу», – паведаміў Статкевіч прэсе. Мікола Статкевіч заявіў НАВІНАМ, што падчас заключэння ён «падвяргаўся ўціску». За 10 дзён яму тройчы мянялі «прапіску». Па словах кіраўніка сацыял-дэмакратаў, суседзяў па апошняй камеры міліцыянты жорстка збівалі: Аляксандра Клімовіча катавалі, ужываючы так званую «ластаўку»; 18-гадовага Аляксандра Плятнёва збівалі. Аднак псіхалагічны ціск не даў жаданага плёну – ужо пасля выхаду на волю Мікола Статкевіч заявіў пра намер Народнай Грамады ў канцы верасня–пачатку кастрычніка правесці шэраг масавых акцыяў, якія будуць «больш эфектыўнымі і дзейснымі». ■



АЎТОРАК з Кастусём ТАРАСАВЫМ

## Векавечнае

Штодзённа назіраць палітычны калейдаскоп — занятак надакучлівы. Бо аскепкі з выявамі грамадскіх дзеячаў то цэментуюцца пылам гісторыі ў самотна аднастайны малюнак, то мільгацяць перад вачыма, ствараючы неіснуючы ў натуры ўзор. Куды больш, чым формы жыццядзейнасці аматараў улады і ўвагі, штодзённа закранае простага чалавека тое, што спадарожнічала нашым продкам і, відаць, будзе спадарожнічаць нашым нашчадкам. З такога вечнага мы штодзённа мусім цярпець Вечнага Хама.

У адрозненне ад Вечнага Жыда, якому за абразу Хрыста наканавана ў адзіноце бадзяцца па свеце, Вечны Хам тыражуецца мностввам экзэмпляраў і раўнамерна рассейваецца па гарадах, вёсках, установах і арганізацыях. Яго гняздоўем можа быць кватэра над вамі, чыноўніцкі кабінет, кабіна вадзіцеля, прылавак у краме, калона дэманстрантаў любога палітычнага накірунку, міліцэйскі пост, стол тэлекаментатара. І гэтак далей. Калі ў вас над галавой пасярод ночы грае прыёмнік, калі вас штурхаюць рукой у чарзе, калі вам абяцаюць, але не выконваюць, калі вы чуеце, як нехта кагосьці брыдка характарызуе, калі вам хлусяць з радыёкропкі ці экрана тэлевізара, значыць побач ці насупраць вас Хам.

Паколькі Хам нікога, апроч сябе, не паважае, усе ягоныя справы, развагі і заўвагі носяць адбітак абразы, нахабства і маларазвітага розуму. Відавочна, што самаўпэненасць не пакідае яму месца для сумненняў у сваёй праваце. Адзінае, што ён прызнае, — сіла. Адрасаваныя да яго напамінкі пра каштоўнасці чалавечнасці, а тым больш заклікі да сумлення, успрымаюцца ім як праява слабасці. Як жаба зацікаўленая ў дажджах для свайго балота, так ён зацікаўлены ў пашырэнні камфортнай для яго хамскай культуры, якая мае дэвізам перасцярогу кожнаму сустрэчнаму: «Радуйся, калі я цябе не чапаю».

Непрыемна асэнсоўваць, што немалая частка прыгожых, падобных да анёлаў дзетак, калі дасягаюць дарослых гадоў, страчваюць культурныя рэфлексы, якія ім прышчэпвалі маці, кнігі, мультфільмы пра вожыка ў тумане і Чабурашку, на карысць жывёльных інстынктаў. Відаць, гістарычная праўда застаецца за тэорыяй Чарлза Дарвіна аб паходжанні гомо сапіенса ад гамадрыла. Хам — недароблены чалавек, які сведчыць пра сваю прысутнасць у грамадстве праз злосную рэакцыю на правы іншых людзей. За апошнія дзесяць гадоў гэтай папуляцыі значна пабольшала. З чаго вынікае, што мы добра прасунуліся назад. Патлумачыць гэта магчыма толькі агульнай атмасферай у грамадстве, якое прыцярпелася да парушэння законаў, алагізмаў улады і нізкага кшталту ідэалаў, прывечаных на дзяржаўным узроўні.

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# «Калгасная» справа

## На наступным тыдні пачнецца суд над Васілём Лявонавым. Былому міністру пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Згодна з рашэннем распарадчай камісіі Вярхоўнага суда Беларусі, працэс над былым міністрам сельскай гаспадаркі Васілём Лявонавым пачнецца ў галоўным судзе краіны 17 жніўня. Нагадаем, што Васіль Лявонаў амаль два гады знаходзіцца ў турме па абвінавачванні ў крадзяжы і хабарніцтве.**



Як стала вядома з крыніцаў, блізкіх да генеральнай пракуратуры, абвінавачванне супраць Васіля Лявонава цяпер строіцца вакол фактаў атрымання ад былога старшыні калгаса «Рассвет» Старавойтава мэблевага гарнітура і нібыта неаднаразовых паднашэнняў тым жа Старавойтавым эксміністру бясплатных пакункаў з прадуктамі харчавання. Мэбля з клеенай фанеры, за якую Лявонаў, быццам бы, не заплаціў, ацэненая дзяржаўнай камісіяй у 2 тысячы долараў. Паводле беларускіх законаў, гэта лічыцца крадзяжом у асабліва буйных памерах, за што Васілю Лявонаву пагражае ад 7 да 12 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Хоць людзі, якія бачылі той злашчасны гарнітур, сцвярджаюць, што такая мэбля ў мінскіх крамах каштуе не больш за трыста долараў. У якасці хабару ў матэрыялах справы таксама фігуруюць 70 кілаграмаў рыбы, 300 грамаў шынкі, нейкія пустыя шкляныя слоікі ды іншая дробязь. Усе гэтыя рэчы, па версіі следства, былы старшыня «Рассвета», нібыта, перадаў Васілю Лявонаву ў якасці падарункаў. Галоўным аб'ектам канфіскацыі, у выпадку вынясення Лявонаву прысуду, можа стаць невялікі дом пад Мінскам, які эксміністр пабудаваў за ўласныя грошы, зробленыя падчас працы гандлёвым прадстаўніком Беларусі ў Нямеччыне. Прычым дом дзяржкамісія ацаніла ўсяго ў 4 тысячы долараў. Распарадчая камісія Вярхоўнага суда перадала справу Васіля Лявонава суддзі Чартовічу і дазволіла выступаць у якасці грамадскага абаронцы дачцэ былога міністра Святлане. Паводле словаў Святланы, яна ўжо некалькі разоў сустракалася з бацькам у камеры мінскага следчага ізалятара, у якім Васіль Лявонаў знаходзіцца ўжо паўтара года. Нядаўна ён прайшоў медычнае абследаванне ў турэмным шпіталі, і лекары прызналі экс-міністра здаровым. Паводле словаў Святланы, яе бацька перакананы, што суд пакарае яго зняволеннем. Васіль Лявонаў лічыць, што ён будзе сядзець у турме, пакуль кіраваць Беларуссю будзе Аляксандр Лукашэнка. Праблемай для прадстаўнікоў абароны Лявонава стаў факт частковага прызнання Васіля Старавойтава ў тым, што нейкія падарункі экс-міністру ён усё ж такі рабіў. Падчас судовага працэсу ў Кіраўску, на які Лявонава нават не прывезлі, быў зафіксаваны і факт перадачы экс-міністру мэблі з «Рассвета», і цяпер, паводле словаў Святланы, суд можа і не шукаць дадатковых доказаў віны Лявонава і перадварыцца ў чыста юрыдычную фармальнасць. Тым не менш абарона Лявонава лічыць прызнанні Старавойтава сумніўнымі і збіраецца дамагацца ад суда прадаставіць больш важкія доказы віны былога міністра. ■

ФОТАФАКТ



Фота Ул. ШЛАПАКА

Каханне. Пятая пара года

ЗДАРОЎЕ

# Штодзённа ў Беларусі ад туберкулёзу паміраюць 1-2 чалавекі

Аляксандр ПАПОВІЧ

Паводле інфармацыі міністэрства аховы здароўя краіны, за апошнія 8 гадоў захворванне на туберкулёз павялічылася ў краіне на 84 працэнты, а смяротнасць ад яго — на 60 працэнтаў. Так, у 1998 годзе на туберкулёз захварэлі 5.595 чалавек, 702 з іх памерлі, 744 — сталі інвалідамі.

Асабліва трывожыць спецыялістаў рост дзіцячага захворвання і рэзкае пагаршэнне сітуацыі з туберкулёзам у Гомельскай і шэрагу раёнаў Магілёўскай вобласці. Спецыялісты таксама адзначаюць, што ў папраўча-працоўных установах і следчых ізалятарах Беларусі ўзровень заражэння туберкулёзам у 30 разоў вышэйшы, чым у сярэднім па краіне. Акрамя таго, усё часцей захворваюць ваеннаслужачыя, жывёлаводы, а таксама работнікі супрацьтуберкулёзных установаў. Пры гэтым, як сведчыць статыстыка, вяскоўцы захворваюць на туберкулёз у 1,5 раза часцей, чым гарадскія жыхары.

Як падкрэсліваюць медыкі, больш за палову з 395 флюарографаў, якія працуюць у медустановах Беларусі, ужо выпрацавалі свой рэсурс. У выніку неабследаванымі традыцыйнай флюарографіяй, якая выяўляе каля 60 працэнтаў хворых на туберкулёз, застаюцца людзі ў шэрагу раёнаў Віцебскай і Брэсцкай абласцей.

На думку спецыялістаў, для выпраўлення сітуацыі неабходна тэрмінова распрацаваць і прыняць дзяржаўную праграму «Туберкулёз» з адпаведным фінансавым забеспячэннем. У адваротным выпадку, лічаць урачы, сітуацыя з захворваннем на туберкулёз у бліжэйшыя 2—3 гады можа яшчэ больш ускладніцца. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**Президент уловил самую суть того, что наболело у крестьян до предела.**

*Людмила МАСЛЮКОВА*
*«Советская Белоруссия», 7 августа 1999г.*

## Міліцыянты былому следчаму не таварышы

Рыгор БУЯН

6 жніўня прыкладна ў 8:20 раніцы на кватэру да кіраўніка грамадскай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алега Волчака наведаліся супрацоўнікі Савецкага РАУС Мінска. Пагаварыць з былым следчым міліцыянтам не ўдалося (яго не было дома), а жонка няпрошаным гасцям дзверы не адчыніла.

Цікаўнасць з боку органаў да сваёй персоны Алег Волчак заўважыў пасля актыўнага ўключэння ў палітычнае жыццё краіны. У траўні яго выбіраюць кіраўніком камісіі па расследаванні абставінаў знікнення адстаўнога міністра Юрыя Захаранкі, створанай беларускай апазіцыяй; пасля гібелі 53 маладых людзей у «падземцы» на Нямізе ён падключаецца да высвятлення прычынаў нечуванай па маштабах трагедыі; і, нарэшце, менавіта арганізацыя, якую ўзначальвае А.Волчак, дапамагла родным ахвяр Нямігі распачаць судовы працэс супраць мінскіх уладаў за бяздзеянне 30 траўня. Дайшло да таго, што міліцыянты абзвоньваюць суседзяў былога калегі і цікавяцца яго жыццём.

Увага да асобы А.Волчака з боку органаў яшчэ больш узмацнілася пасля 21 ліпеня. Тым вечарам, калі Мінск святкаваў заканчэнне 5-гадовага прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі, міліцыянты затрымалі былога следчага, даставілі ў Маскоўскі РАУС і там збілі. Ведаючы «оперную» кухню, А.Волчак зняў пабоі і накіраваў пракурору Маскоўскага раёна скаргу з патрабаваннем узбудзіць крымінальную справу супраць міліцыянтаў за перавышэнне службовых паўнамоцтваў. Па інфармацыі газеты, праверкай скаргі занялася пракуратура Мінска. ■

## Знаўца зрабілі невыязным

Алесь ШМЯЛЁЎ

Днямі дэпутата Вярхоўнага Савета Паўла Знаўца выклікалі ў райаддзел міліцыі, дзе анулявалі штампы ў ягоным пашпарце, якія дазвалялі выезд ва ўсе краіны свету да 2001 і 2004 года адпаведна. Патлумачылі такое рашэнне міліцыянты тым, што супраць Знаўца вядзецца следства па крымінальнай справе за ўдзел у выбарах прэзідэнта, і таму, каб дэпутат не «ўцёк» за мяжу, яго пазбавілі магчымасці выезду.

Сам Павел лічыць, што гэта новы сродак барацьбы ўладаў супраць апазіцыянераў, якія ездзяць па іншых краінах і даводзяць тамтэйшым кіраўнікам праўду аб сітуацыі ў Беларусі. ■

## Лукашэнка будзе гандляваць з «сябрам» Садамам

Рыгор БУЯН

Намеснік прэм'ер-міністра РБ Уладзімір Замяталін падчас нядаўняга візіту ў Ірак падпісаў ад імя беларускага Савета міністраў з урадам гэтай краіны пагадненне аб гандлёвым і эканамічным супрацоўніцтве. Тым самым беларуская ўлады прадэманстравалі міжнароднай супольнасці, якая яшчэ ў 1991 годзе ўвяла эканамічныя санкцыі супраць Ірака, сваю арыентацыю на збліжэнне з таталітарнымі рэжымамі свету. Цяпер, пасля такога дэманстратыўнага ігнаравання міжнароднай думкі, нелегітымнаму пасля 21 ліпеня рэжыму Лукашэнкі тым больш нечага спадзявацца на прызнанне.

Варта адзначыць, што падчас сустрэчы з прэзідэнтам Ірака Садамам Хусейнам, віцэ-прэм'ерам Тарыкам Азізам ды міністрамі Уладзімір Замяталін абмяркоўваў менавіта пытанні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. У прыватнасці, беларускі пасланец дамовіўся з Тарыкам Азізам аб стварэнні сумеснай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. ■

# Няміга: ці будзе помнік?

## Безыменнымі ружамі жадаюць замяніць «Сцяну плачу»

# Помнить и осмыслить

**Наталья РАДИНА**

**Прошло более двух месяцев со дня трагедии на Немиге. На сороковины возле подземного перехода, где приняли мученическую смерть 53 человека, установлен памятный знак. Он, хоть и выполнен корректно, носит общий характер. Действительное разумение происходит в переходе, где на стенах наклеены фотоснимки погибших девушек и юношей, где фломастерами написаны бесчисленные эпитафии. Муссируются слухи, что скоро все надписи смоют, и переход приобретет тот безликий вид, какой имел до 30 мая. Будет ли здесь возведен памятник? Или памятный знак потиху обретет статус памятника? Будет ли установлена памятная доска с именами погибших? Об этом корреспондент НАВІНАЎ беседует с авторами памятного знака Г.В. Буралкиным и А.И. Чадовичем.**

**Геннадий БУРАЛКИН**, председатель Союза художников Беларуси.

***— Геннадий Васильевич, когда Вы разрабатывали памятный знак, предполагалось ли, что рядом или в переходе будет установлена доска с именами жертв трагедии на «Немиге» и указанием возраста погибших?***

— Мы ставили перед собой цель создать временный памятник погибшим на «Немиге». Необходимо было к сороковинам отдать скорбную дань безвременно ушедшим из жизни юношам и девушкам. Конечно, за такой короткий срок трудно было сделать памятник, который бы удовлетворил всех. Изначально предполагалось, что доска могла бы быть. Этот вопрос необходимо решить. Но в памятном знаке мы решили представить образ погибших девушек и ребят через гирлянду цветов. Ведь там были шестнадцатилетние, двадцатилетние и даже тринадцатилетние. И потому в бронзовой гирлянде соединились распустившиеся, полураспустившиеся розы и закрытые бутоны. Мы думали,что на сороковины достаточно фразы: «53 рубца на сердце Беларуси». Сегодня нельзя сразу убрать все листки с надписями и портретами со стен перехода, поместив вместо них мемориальную доску. Боль должна ослабнуть.

***— Но пройдет время, и о погибших детях будут помнить лишь их несчастные родители и друзья. О чем тогда будет говорить людям надпись «53 рубца...»? Она свободна для интерпретаций.***

— Я думаю, что это возможно – поместить на стене перехода имена погибших. Или их имена будут выполнены в бронзе прямо на ступеньках памятного знака рядом с розами. Мне кажется, это будет выполнено со временем, если такое увековечение посчитают необходимым.

***— А от кого конкретно зависит такое решение, кроме, разумеется, Вас и Вашего соавтора Александра Чадовича?***

— Вы мне сложный вопрос задаете. Это не совсем компетенция авторов знака. Моим делом было найти художественный образ, соответствующий содержанию трагедии. Мы постарались, насколько позволяло время и обстоятельства, такой образ создать. ►

*Окончание на стр.4*

**МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ**

**Мы продолжаем публикацию результатов социологических исследований, которые проводит лаборатория «НОВАК» Андрея Вардамацкого. Опрос был проведен 8-13 июля. Репрезентативная выборка — 1.095 человек.**

## Хотим ли мы объединения с Россией?







Очевидно, что идея объединения Беларуси и России в одно государство уходит в небытие. Подобную форму альянса поддерживает лишь 4,9% респондентов. Фиаско терпит и проект Александра Лукашенко по созданию конфедеративного государства с управлением через надгосударственные структуры, — его готовы поддержать лишь 17,1% белорусов. Становится очевидным, что **Лукашенко в идее объединения двух стран руководствуется не волей белорусских граждан, а личными устремлениями.**

Любопытно, что в опросе, проведенном среди жителей столицы, процент категорически отрицающих объединение двух государств (32,0%) превышает процент респондентов, согласных с тем, что Беларусь и Россия должны более тесно сотрудничать в области обороны и экономики (28,2%). **В случае объединения двух государств 2,8% жителей Беларуси (около 300.000 человек) планируют эмигрировать на Запад,** 2,5% – переедут в Россию. Еще 5,6% – затрудняются ответить на вопрос, что они готовы предпринять в случае потери суверенитета Беларуси. ■

*По техническим причинам в прошлом номере газеты не была опубликована одна из диаграмм. Мы приносим свои извинения и повторяем публикацию.*

**ПОШТА**

## Сцяна

Ведаю, у якой краіне жыву. Ведаю, што ў нас можна трапіць у пастарунак за тое, што ідзеш па вуліцы з сцягам альбо размаўляеш на дзяржаўнай мове, і нават за тое, што выпадкова апынуўся ў раёне апазіцыйнага мітынгу. Але ніколі не думаў, што памяць пра сябра можа стаць у нас складам злачынства.

У чацвер я зайшоў у падземны пераход на «Нямізе», каб пакласці кветкі ля фатаграфіі маёй знаёмай дзяўчыны Марыны Бібіць, якая загінула там 30 траўня, і быў шакаваны слядамі вандалізму, які там робіцца. З сцен пераходу былі сарваныя здымкі, вершы, аркушыкі з апошнімі словамі развітання (адных толькі здымкаў знікла 9), на падлозе каля прыступак валяўся перакулены кошык з кветкамі. У пераходзе і раней знікалі кветкі і вянкі, заціралася надпісы, але такога масавага характару вандалізм яшчэ не набываў. Міліцыя, якая дзяжурыць на «Нямізе», робіць выгляд, быццам нічога не адбываецца.

Паколькі ахвярамі вандалаў сталі і выразкі з газетаў «Здравый смысл» і «Настаўніцкая газета» з матэрыяламі пра Марыну, я вырашыў іх аднавіць. Зрабіўшы ксеракопіі, суботнім вечарам я прыйшоў у падземны пераход і прыклеіў іх на сцяну. Не паспеў я адысці ўбок, як да мяне падбеглі міліцыянты і сталі дапытваць, што я тут раблю. Я адказаў, што аднаўляю тое, што тут знаходзілася раней і было сарванае.

Мой адказ насцярожыў міліцыянтаў. Яшчэ больш іх насцярожыў загаловак з газеты «Здравый смысл»: «Это только одна жизнь, а сколько их было?». Не пажадаўшы прачытаць тэкст, яны вырашылі, што гэта пракламацыя, у якой гаворка ідзе пра колькасць ахвяраў. У выніку мне «прапанавалі» прайсці на станцыю ў міліцэйскі пакой.

Тут мне ўчынілі допыт, задаючы пытанні накшталт: «Что Вы там делали?», «С какой целью?» і нават «Кто Вам дал такое задание?» (цікава, як можа нармальны чалавек адказаць на такое пытанне?). Дапытаўшы мяне, міліцыянты, здаецца, зразумелі, у якое бязглуздае становішча трапілі, затрымаўшы такога «дыверсанта». Тады адзін з іх (напэўна, галоўны) наштось пацікавіўся прозвішчам Марыны і працягнуў: «Ну, здесь ничего такого нет». Пасля гэтага мяне адпусцілі.

Калі я выйшаў з міліцэйскага пакою, той міліцыянт, што прывёў мяне туды, стаў гаварыць: «Я тебя понимаю, но здесь ведь переход, а не кладбище, здесь люди ходят. Там, наверху, поставили памятник, так что цветы теперь туда носить надо. Там, кстати, написано, сколько их было. А здесь все равно в конце месяца все снимут и стены вымоют».

Такім чынам, смутказаць і захоўваць памяць пра загінуўшых сяброў у нас можна толькі шыхтамі і па загадах. Намаляваўшы сабе 53 рубцы на сэрцы, улады вырашылі «прыватызаваць» душы тых, хто загінуў: паспешліва паставілі на «Нямізе» памятны знак і распачалі гульню пад назвай «творчы конкурс на лепшы помнік». Але на «Нямізе» ўжо ёсць помнік: прыступкі, палітыя крывёю, «Сцяна плачу» з фатаграфіямі і развітальнымі надпісамі. Гэты помнік пабудаваны намі, хто страціў там родных і сяброў, а таксама тымі, хто не страціў нікога, але ўспрыняў трагедыю як сваю асабістую. Таму мы носім кветкі туды, а не да «падараваных» бронзавых ружаў. Таму выступаем за тое, каб гэты пераход зачынілі, бо нельга хадзіць па крыві. Таму мы супраць «творчых конкурсаў», бо нельга на людскім горы рэалізоўваць чыесьці мастацкія фантазіі.

Але ўлады вельмі раздражнае, што мы смуткуем без дзяржаўнай ліцэнзіі. Таму яны намагаюцца ўсімі сіламі выжыць нас з «Нямігі», бо «здесь не кладбище». Прымаюцца «меры по ликвидации последствий трагедии»: знішчаны адбіткі далоняў на столі падземнага пераходу, ідзе «зачыстка» прыступак ад кветак і свечак (а цяпер і ад фатаграфій), абвяшчаюцца конкурсы, а прыдворная прэса абвінавачвае нас у тым, што мы прыходзім на «Нямігу» таму, што гэта, быццам бы, модна, як да «сцяны Цоя». Лёс «Сцяны плачу» залежыць цяпер ад родных тых, хто там загінуў. Дарагія мамы і таты, бабулі і дзядулі, браты і сёстры ахвяраў «Нямігі»! 30 траўня вашых дзяцей, унукаў, братоў і сясцёр, нашых сяброў затапталі ў падземным пераходзе, сёння іншыя топчуць памяць пра іх, зрываючы з сценаў здымкі. Ціха абурацца ўжо не выпадае. Калі вы прамаўчыце сёння, заўтра будзе позна! ■

**Франц КОРЗУН, Мінск**

**ДЫЯГНАЗ**

## Комитетомания


**Александр ПОТУПА**

Цивилизация выработала простой рецепт нормальной жизни — государство не должно мешать человеку зарабатывать деньги и обретать духовные ценности. И даже, напротив, — помогать, всячески поддерживая правовую систему взаимоотношений. И у многих получилось неплохо — богатые люди в богатых странах, где государства знали свое место в отношениях с этими самыми людьми.

По-другому у тех, кто за цивилизованным миром свою страну решил не вести, а послал, ее, болезную, прямиком в рыночный социализм. Тут иная философия. Важнее не заработать доллар, а приставить к каждому заработанному центу по контролеру, лучше по особому контрольному комитету.

К такому *сверххлебному делу*, как водка с табаком, приставлять комитет надо вне очереди. Как револьвер к виску. И с правом контрольного *штрафа в затылок*.

В этом году мы выходим, кажется, на очередной рекорд — примерно 40 бутылок алкогольных напитков на душу населения. Это всего, а на каждую пьющую душу получится в среднем по бутылке в неделю. Потолок 1994 года должен быть превзойден на 20%. При мировом рекорде сверхнизкой цены на водку, а также обильных добавках контрабандной отравы и собственного самогона не удивительно, что средняя продолжительность жизни белоруса снижается в темпе *год за год*. Что есть наивернейший метод дальнейшего усиления борьбы со старением населения и пенсионным тунеядством.

Несколько комитетов, в том числе и славные чекисты, борются с ежегодным стихийным бедствием — урожаем. В 1998 году он был на 20% ниже, чем в 1994. В этом, дай Господи, если упадет еще не более чем на 10% — до 4,2-4,3 млн. тонн. Предстоит еще выяснить, зачем оппозиция учинила нынешним летом столь злую засуху. И сорвала тем самым выполнение президентского показателя в 6,3 млн. тонн. Прекрасный выход — взять ее полным составом в заложники. Рассадить по камерам «Володарки» с сотовыми телефонами — пусть возвращают два миллиона тонн зерна. Можно наличными.

Кстати, в порядке мысленного эксперимента: если бы комбайнерам платили не по 16-27 центов за каждую намолоченную тонну, а, скажем, по доллару, не возник ли бы в наших закромах «лишний» миллион тонн? Ведь закупать-то придется за рубежом примерно по 100 долларов за тонну.

По полугодию совместными усилиями всех комитетов отечественный ВВП составил аж 924 трлн. «зайчиков». То есть в масштабе года мы получим где-то от 500 до 800 долларов на душу населения — в зависимости от курса пересчета. В любом варианте это характерно *нищеафриканские показатели*. С соответственно нищим консолидированным бюджетом, съедающим не менее 40% ВВП.

Хотя деньги — не главное. С милым рай и в шалаше. У миленка — ни шиша, но идея хороша... Мы всему капитализму в шалаше поставим клизму... И да здравствует наиглавнейший комитет по дальнейшему укреплению и лицензированию *трудоправственной райскошалашной дисциплины!* ■

# Помнить и осмыслить

*Окончание.*
*Начало на стр.3*

**Александр ЧАДОВИЧ**, главный архитектор города Минска.

***— Александр Иванович, могу ли повторить вам вопрос, с которым обращалась к Г. Буралкину: мемориальной доски на месте трагедии на Немиге нет. Это осознанное решение?***

— Помещать имена погибших на этом месте, на мой взгляд, просто нельзя. Это и не этично, и не уместно. Имена, как правило, размещаются или на мемориалах, или на кладбищах. В данном случае мы не рассматриваем подземный переход возле станции метро «Немига» ни как кладбище, ни как мемориал. Это знак памяти о трагедии. Представьте, ведь сегодня живут близкие родственники погибших, которые очень остро все переживают. Я не знаю, нужен там список или нет. Это надо у них спросить. Положим, они готовы, чтобы на памятной доске было увековечено имя их ребенка, но, что будет через 100, через 200 лет?

***— Но вполне возможно, что без памятной доски с именами люди через 100 лет забудут об этой страшной трагедии...***

— А почему чужие люди должны помнить эти имена? Это очень личное. Если один народ нападает на другой, идет война, и люди погибают за какие-то интересы, — это героизм. Что произошло здесь? Дикий несчастный случай. Его забыть надо побыстрее и прежде всего родственникам.

***— Может быть, не стоит забывать, чтобы не повторилось?***

— Тогда нам придется запугивать потомков на каждом шагу. Везде сегодня гибнут люди. Вы представляете, во что может превратиться город? В бесконечный мемориал. Да, в подземном переходе погибло 53 человека... Но где-то погиб один человек. Мы, что, будем придерживаться количественных критериев при создании мемориалов? Бесконечно ценна жизнь и одного человека, но, увы, невозможно все смерти фиксировать в мемориалах. Если мы сегодня установим доску с именами, что они скажут незнакомым людям? Саша, Ольга, Леночка... Ведь это не предохранит от подобных трагедий.

***— Поскольку, по Вашим и Геннадия Буралкина словам, установленный памятный знак — временный, то что предполагается создать в качестве постоянного?***

— Проводится конкурс. Это не традиционный конкурс, он не объявляется на победителя, имеющего право реализовать свой проект. Трагедия на Немиге — событие, которому мы не имеем аналога. Мы не можем сориентироваться на чей-то опыт. Мы предложили каждому высказать свои предложения, решения, идеи на эту тему. Это продлится до конца сентября. Потом мы предполагаем создать архитектурно-художественный совет, который осмыслит поступившие предложения на профессиональном уровне. А затем мы вынесем их на общественное обсуждение. Выбор должны будут сделать сами минчане, а не одно должностное лицо. Сегодня уже есть несколько проектов: например, 53 цветка символизируют погибших, 53 голубя — души погибших, 53 маленьких колоколов, звон которых напоминает о скорбном дне. В проекте существует идея и строительство храма на этом месте.

***— А насколько нужен тут новый храм, если в районе станции метро «Немига» и так плотно расположены три церкви и костел?***

— Вопрос, конечно, полемический. Есть традиция у православных строить храмы на крови. Хороша ли традиция? Храм посвящен Богу, а можем ли мы молиться Богу на крови? Кроме того, Немига — это исторический памятник. В XI веке здесь уже стоял город, и остатки древнего городища хранятся под землей. Мы не можем сегодня все это вскрыть и сделать народным достоянием. У нас нет на это ни денег, ни технологий. Но рано или поздно мы сможем провести необходимые работы, мы обязаны этот пласт истории оставить всем потомкам. Если мы построим над ним храм, то потом рука не поднимется разрушить его и вскрыть котлован для раскопок замчища. Тем более, что там уже находился фундамент церкви XII века. Строить новую церковь в этом месте крайне нежелательно, с этим местом связаны столетия минской истории.

Есть также категорическое предложение — закрыть подземный переход и сделать на этом участке улицы открытый перекресток. Мне кажется, это неправильно. Подземный переход обеспечивает безопасность тысяч пешеходов.

Я высказываю свою личную точку зрения и, конечно, не считаю, что мое мнение — истина в последней инстанции, хоть я профессионал, меня учили, как строить город. Если мемориальная доска нужна родителям, тогда, наверное, надо провести опрос. Но я говорю искренне. Если моя позиция кого-нибудь задевает, то приношу свои извинения. Менее всего мне хотелось бы кого-нибудь обидеть. ■




Фота Ул.ШЛАПАКА

## КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Інтэрв'ю з аўтарамі памятнага знака і ліст Франца Корзуна «Сцяна» адлюстроўваюць вельмі значныя для нашага грамадства праблемы. Змест масавай гібелі моладзі на Нямізе не паддаецца асэнсаванню ў звычных стэрэатыпах: тут не было акта тэрору, аўта- ці чыгуначнай катастрофы, не ўзнік надзвычайнай сілы пажар, карацей, не было нічога, што ў свядомасці людзей злучанае з небяспекай і магчымымі смяротнымі наступствамі. Паліў дождж – і 53 юных душаў не стала. Нас упэўніваюць — выпадак. Але ўсялякі выпадак мае перадгісторыю. У падставу жахлівай няміжскай трагедыі закладзены брыдкая ідэя піўнога свята, халатнае выкананне міліцыяй службовых абавязкаў, абыякавасць адказных асобаў, прышчэпленая культура непавагі да іншага чалавека і г. д. Таму праблема памятнай дошкі з прозвішчамі дзяўчат і юнакоў, якія сталіся ахвярамі натоўпу, набывае зусім іншае значэнне, чым для выпадку аўтакатастрофы на шашы. І праз сто гадоў дошка засведчыць, што з 53 ахвяраў бальшыня мела 15—18 гадоў. І праз сто гадоў сэрца чалавечае здрыганецца ад жалю, спачування і болю. У мінскай царкве Аляксандра Неўскага ўшаноўлены на дошках імёны мінскіх салдатаў, якія загінулі падчас руска-турэцкай вайны. Ніхто сёння не можа звязаць вобраз канкрэтнага чалавека з тымі імёнамі, але сэрца хвалюецца, калі чытаеш прозвішчы тых, хто паўтара стагоддзя таму жыў у нашым горадзе і загінуў на Шыпцы.

Трэба пагадзіцца з думкай галоўнага архітэктара Мінска А. Чадовіча, што не варта ўзводзіць на Нямізе яшчэ адзін храм. Тут знаходзіцца мінскае замчышча, і ніхто сёння не ведае, як будзе складвацца архітэктурна-горадабудаўнічая сітуацыя праз 50 гадоў. Да таго ж, побач знаходзяцца Святадухаўская і Петрапаўлаўская цэрквы, цераз раку – царква Марыі Магдалены, а на пляцы Волі – касцёл. Аднак галоўны архітэктар Мінска абсалютна не мае рацыі, калі мяркуе аб пажаданасці найхутчэйшага забыцця і роднымі, і народам гэтага жахлівага здарэння. Родныя ніколі не забудуць сваіх дзяцей, і праз стагоддзі далёкія сваякі загінуўшых на Нямізе будуць пераказваць сваім дзецям гэтую сямейную трагедыю, паказваць здымкі маладых дзяўчат і хлопцаў, чыё жыццё абарвалася на прыступках падземнага пераходу. Неаспрэчна, што няміжская трагедыя ўвойдзе ў гісторыю Мінска канца нашага стагоддзя. Усім нам варта памятаць пра няшчасных, бо ў кожнага ёсць ці будуць дзеці, і яны не павінны станавіцца ахвярамі тых хібаў грамадства, спалучэнне якіх прывяло да трагедыі 30 траўня.

АФІША

## Свята «Кока-колы» па суботах

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Магчымасць цэлы дзень бясплатна катацца на атракцыёнах парку. Чалюскінцаў і піць «Кока-колу» пры пэўнай долі шанцавання можа атрымаць любы юнак альбо дзяўчына, якія ў суботу ў 14:00 наведаюць танцпляцоўку вышэйзгаданага парку. Увесь жнівень менавіта па суботах і менавіта ў гэты час «Альфа-радыё» і кампанія «Кока-кола» праводзяць на танцпляцоўцы сваё шоу, у якім можа паўдзельнічаць кожны жадаючы. У шматлікіх конкурсах і віктарынах разыгрываюцца прызы, якія атрымаюць нават тыя, хто не пераможа.

І, канешне, сама атмасфера свята, якая ўздымае настрой як падлеткам, так і дарослым людзям, якія прыйшлі паглядзець на імпрэзу.

А тыя, хто прынясе з сабою крышачку ад бутэлькі «Кокаколы», «Фанты» ці «Спрайта», атрымае магчымасць паўдзельнічаць у галоўным конкурсе дня і, у выпадку перамогі, выйсці ў прамы эфір «Альфа-радыё». ■

SOS

## За два месяцы ў вадаёмах Беларусі патанулі 734 чалавекі

**Аляксандр ПАПОВІЧ**
**БелаПАН**

Па дадзеных Беларускага таварыства выратавання на водах, на працягу чэрвеня—ліпеня ў рэспубліцы патанулі 734 чалавекі. Усяго ж з пачатку гэтага года ў вадаёмах Беларусі патанулі 1.068 чалавек, у тым ліку 136 дзяцей.

Пераважная большасць няшчасных выпадкаў, як адзначаюць спецыялісты, адбываецца на вадаёмах, дзе адсутнічаюць выратавальныя пасты і служба хуткай дапамогі. Часцей за ўсё месцам трагедыі становяцца вадаёмы, не прыстасаваныя для купання, — пажарныя рэзервуары, тэхнічныя вадаёмы і кар'еры. Для параўнання: у месцах, дзе разгорнутыя пасты выратавальных службаў, за чэрвень і ліпень патанулі 2 чалавекі. ■

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Улада над алкаголем і тытунём

## У студзені магчымы перабоі з гарэлкай і цыгарэтамі

**Расціслаў ПЯРМЯКОЎ**

**На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт, які надае дзяржаве дадатковыя паўнамоцтвы ў сферы вытворчасці і гандлю алкагольнымі вырабамі, спіртам і тытунёвымі вырабамі.**

Новыя захады маюць на ўвазе, па-першае, выцесніць з рынку дробных гандляроў і вытворцаў алкагольна-тытунёвай прадукцыі (у асноўным – недзяржаўных), а па-другое, — традыцыйна – папоўніць спусцелы бюджэт.

Новыя правілы вытворчасці і гандлю алкагольна-тытунёвай прадукцыяй уступаюць у сілу 1 студзеня 2000 года. Ужо цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што гэтыя захады адаб'юцца на кішэні спажыўца – не таму, што камерсанты пачнуць «загрэбаць» больш прыбытку, а таму, што самі будуць вымушаныя несці дадатковыя страты.

Дэкрэт устанаўлівае ўвядзенне новых акцызных марак для алкаголю і тытуню, якія выпрабляюцца на тэрыторыі Беларусі (раней акцызныя маркі ўжываліся толькі для маркіроўкі замежнай прадукцыі), а таксама абавязвае кожнае (!) прадпрыемства, якое гандлюе гэтымі таварамі, – ад буйнога аптавіка да камерцыйнага шапіка – мець спецыяльны апарат для праверкі сапраўднасці акцызнай маркі. У выніку кожны пакупнік зможа патрабаваць ад прадаўца праверыць апаратам той пачак цыгарэтаў ці тую бутэльку гарэлкі, якую ён збіраецца набываць – ці не фальшывая яна. Цікава, што серыйная вытворчасць прыбора яшчэ нават не пачалася. Таму невядома, колькі ён будзе каштаваць.

Як паведаміў намеснік міністра эканомікі Анатоль Кавалёў, які ўзначальваў рабочую групу па падрыхтоўцы дэкрэта, на сённяшні дзень у Беларусі 201 прадпрыемства займаецца вытворчасцю алкаголю, 850 мае ліцэнзію на аптовы гандаль моцнымі напоямі, 15,5 тысяч крамаў гандлююць алкаголем у розніцу. Цыгарэты вырабляюцца на 2 прадпрыемствах, 230 – гандлююць оптам і 10 тысяч займаюцца рознічнай рэалізацыяй. Натуральна, што пасля пачатку дзеяння дэкрэта колькасць усіх гэтых прадпрыемстваў значна скароціцца.

Па словах А.Кавалёва, асноўная прычына з'яўлення дэкрэта – шматлікія парушэнні заканадаўства. Тут і нелегальная вытворчасць алкагольнай прадукцыі, і кантрабанда, і дзейнасць крымінальных структураў на гэтым рынку. На думку распрацоўшчыкаў, новы дэкрэт дапаможа пазбавіцца ад крыміналу і падвысіць паступленні ў бюджэт ад продажу алкагольнай і тытунёвай прадукцыі.

Як ні дзіўна, але «праблема-2000», а прасцей — наступленне 1 студзеня 2000 года — можа накласці негатыўны адбітак на гандаль алкаголем і тытунём. Але камп'ютэрная памылка тут ні пры чым. Проста ў гэты дзень, паводле новага дэкрэта, анулююцца ўсе ліцэнзіі на аптовы гандаль алкагольна-тытунёвай прадукцыяй ва ўсіх фірмаў. І толькі ў гэты дзень фірмы змогуць падаць дакументы на атрыманне новых ліцэнзіяў. А наколькі зацягнецца працэдура выдачы новых ліцэнзіяў – невядома. Такім чынам, цалкам магчымыя перабоі з гарэлкай і цыгарэтамі на працягу ўсяго студзеня.

Дарэчы, дзяржава вырашыла ўзяць пад свой кантроль вытворчасць спірту і тытуню ў тым ліку і тэхнічнага. «Мы вырашылі, што вытворчасць спірту – справа дзяржаўная», – заявіў Анатоль Кавалёў. Так што прадпрыемствам па вытворчасці спірту таксама давядзецца атрымоўваць ліцэнзіі. А гэта – новыя затраты.

Дэкрэт А.Лукашэнкі прадугледжвае шматлікія рэпрэсіўныя захады супраць парушальнікаў. Напрыклад, калі пасля 1 студзеня па тэрыторыі Беларусі звычайны грамадзянін будзе везці на сваім аўтамабілі больш за 1.000 цыгарэтаў (5 блокаў + 1 цыгарэта), і на цыгарэтах не будзе акцызных марак, то такому чалавеку будзе пагражаць: канфіскацыя цыгарэтаў, штраф да 100 «мінімалак» і нават канфіскацыя аўтамабіля, у якім везлася гэтае «дабро».

Яшчэ адным з наступстваў дэкрэта стане падвышэнне ролі дзяржаўных вытворцаў і гандляроў алкаголем і тытунёвымі вырабамі. І тут ніхто не скрывае: дэкрэт – гэта яшчэ адзін крок на шляху да поўнай дзяржаўнай манаполіі на вытворчасць і гандаль алкагольнай і тытунёвай прадукцыяй. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 582 Нумар падпісаны ў друк 09/08/99 (15:00) Наклад — 16.460